# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№ 10 (185)
кастрычнік 2017

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:

### Суд адмовіўся вяртаць ліцэнзію Ганне Бахцінай

Мінскі суд не задаволіў пазоў адвакаткі палітвязняў да Міністэрства юстыцыі.

Працяг на старонцы 2.

### Беларускія выдаўцы завіталі ў госці да Барыса Кіта

Беларускія выдаўцы завіталі ў госці да Барыса Кіта – аднаго з найвядомейшых беларусаў свету, якому ўвесну споўнілася 107 гадоў.

Працяг на старонцы 3.

### Марыя Міцкевіч: "Дабрачынны канвой вёз у Беларусь гуманітарную дапамогу, а на зваротным шляху – выданні для «скарынаўкі»"

Займацца дабрачыннасцю ў Беларусі – справа нялёгкая. Аднак усмешкі дзяцей і ўдзячнасць бацькоў кампенсуюць наступствы хісткага заканадаўства, неабходнасць справаздач і непазбежнасць шматгадзіннага мытнага дагляду.

Працяг на старонцы 4.

**Чытайце, пішыце, каментуйце на абноўленым сайце ЗБС "Бацькаўшчына" zbsb.org!**




# "АДРАСЫ БНР. 1918–2018" – КАЛЯНДАР АД "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ" ДА ЮБІЛЕЮ БНР!

Прыемныя навіны для нашых сталых чытачоў! Мы ўжо анансавалі выхад новага календара ад "Будзьмы!" з папулярнай серыі "Не маўчы па-беларуску!" на 2018 год. Ну дык ведайце, што ён ужо ў продажы. Але гэта яшчэ не ўсё!

На наступны год вас чакае яшчэ адзін каляндар – "Адрасы БНР. 1918 – 2018", падрыхтаваны адмыслова да стагоддзя Беларускай Народнай Рэспублікі. Новы каляндар густоўна аформлены і інфармацыйны, своеасаблівы гід – ён змяшчае фота 12 будынкаў, у якіх у розны час адбываліся падзеі, звязаныя з БНР.

Купалаўскі тэатр, дзе ў снежні 1917 года адбыўся гістарычны Першы Усебеларускі з'езд, дом купца Мураўёва ў Гародні, дзе месціўся ўрад БНР пасля выезду з Мінска, будынак Беларускай Місіі ў Рызе. Але не думайце, што ў календары толькі Мінск! Тут ёсць Вільня, Коўна, Прага, Талін і нават Нью-Ёрк!

Кожны з "адрасоў БНР" прэзентаваны ў сучасным выглядзе, з пазначэннем цяперашняга адраса, і даўнейшым. Дзякуючы календару любы ахвочы без праблем знойдзе дом, дзе жыў Пётра Крэчэўскі або Васіль Захарка ў Празе.

Уклала каляндар гісторык Наталля Гардзіенка, а аздабленнем займаўся кіраўнік студыі "Адліга" Анатоль Лазар.

Сачыце за навінамі і абвесткамі! І не забывайцеся, што да стагоддзя БНР засталося ўсяго нічога!

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

## У ШВЕЙЦАРЫІ НАРЭШЦЕ АДКРЫЛІ ПОМНІК КАСЦЮШКУ

Хоць на канчатковай прымірэнчай шыльдзе і няма надпісу, які першапачаткова быў задуманы ["Выдатнаму сыну Беларусі ад удзячных суайчыннікаў"], на ўрачыстасці з нагоды адкрыцця помніку гэта ўсё ж прагучала.

Нагадаем, з чаго пачалася ўся шура-бура. 9 кастрычніка намеснік старшыні Асацыяцыі беларусаў Швейцарыі Алесь Сапега паведаміў, што пад уплывам польскага амбасадара ў Берне Якуба Кумаха змест шыльды на помніку Тадэвушу Касцюшку моцна скарацілі. З яго прыбралі беларускамоўную версію і выкраслілі радок пра "выдатнага сына Беларусі", пакінуўшы толькі імя, даты жыцця і сціплае "Пастаўлены Асацыяцыяй беларусаў Швейцарыі ў 2017 годзе", напісанае па-нямецку. Прычым беларуская асацыяцыя пісалася як "Weissrussischen Vereinigung".

Пасля таго, як СМІ ўзнялі шум вакол гэтай гісторыі, у перамовы з мэрам Залатурна ўключылася беларускае МЗС, якое паспяхова здолела ўлагодзіць канфлікт.

Працяг на старонцы 2.

навіны

# СУД АДМОВІЎСЯ ВЯРТАЦЬ ЛІЦЭНЗІЮ ГАННЕ БАХЦІНАЙ



Мінскі суд не задаволіў пазоў адвакаткі палітвязняў да Міністэрства юстыцыі.

Суд Маскоўскага раёна Мінска прыняў пастанову паводле скаргі вядомай у Беларусі адвакаткі з 38-гадовым юрыдычным стажам Ганны Бахцінай, якую Мінюст нядаўна пазбавіў ліцэнзіі. У задавальненні скаргі – адмоўлена.

Пастанова аб пазбаўленні Бахцінай ліцэнзіі было вынесена Міністэрствам юстыцыі 14 верасня на падставе пастановы кваліфікацыйнай камісіі. Але пры гэтым, на думку адвакаткі, мелі месца парушэнні пры правядзенні атэстацыі, а пазачарговая атэстацыя была праведзеная няправільна, таму і пастанова была прынятая неабгрунтавана.

30 кастрычніка, падчас разгляду скаргі ў судзе, Ганна Бахціна падрабязна давяла суду, што менавіта паслужыла падставай для прыняцця пастановы кваліфікацыйнай камісіяй аб пазбаўленні яе адвакацкай ліцэнзіі. Пра гэта напісала ў "Фэйсбуку" праваабаронца Эніра Браніцкая, якая прысутнічала на судовым пасяджэнні: "Бахціна выразна расклала, што на падставе двух парушэнняў у справаводстве (афармленне дамовы з кліентам) і таго, што яна не адказала на юрыдычнае пытанне камісіі, яе пазбаўляюць ліцэнзіі і кажуць, што гэта падставы для таго, каб сцвярджаць, што яна не можа прафесійна выконваць свае абавязкі. І зроблена гэта было Мінюстам без законных падстаў і ўсякай публічнай матывацыі. Ганна Віктараўна гучна і выразна агучыла, што гэта робіцца з палітычных матываў праз тое, што яна ўдзельнічае ў абароне паводле "Справы Патрыётаў", што праверкі пачаліся з Магілёўскай калегіі вясной (тых, хто абараняў людзей у Бабруйску і Асіповічах) і скончыліся ў Мінску. Дзяржаве патрэбныя паслухмяныя адвакаты...".

Падчас аднаго з судовых пасяджэнняў таксама высветлілася, што яшчэ 19 кастрычніка, не чакаючы заканчэння суда, Савет Мінскай гарадской калегіі адвакатаў на загад Мінюста выключыў Ганну Бахціну з чальцоў калегіі. Пастанова ўвайшла ў дзеянне з 26 кастрычніка.

13 верасня праваабаронцы выступілі з Супольнай заявай беларускіх праваабарончых арганізацый, у якой патрабуюць ад уладаў Беларусі спыніць ціск на адвакатаў, якія ажыццяўляюць абарону фігурантаў палітычна матываваных спраў і спраў, звязаных з абаронай правоў чалавека; неадкладна спыніць умяшальніцтва дзяржаўных органаў у дзейнасць адвакатуры і забяспечыць яе незалежнасць на заканадаўчым узроўні шляхам унясення адпаведных змяненняў у дзейнае заканадаўства, а таксама скасаваць адпаведную пастанову кваліфікацыйнай камісіі Мінюста, якая з'яўляецца перашкодай у ажыццяўленні прафесійнай адвакацкай дзейнасці Ганны Бахцінай. Да ўладаў Беларусі звярнулася таксама Камісія ў правах чалавека пры Вышэйшай адвакацкай радзе, тым самым выказаўшы ўстурбаванасць сітуацыяй з беларускімі адвакатамі, у дачыненні да якіх Міністэрства юстыцыі праводзіць пазапланавую пераатэстацыю.

Да Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь з заклікам перагледзець рашэнне аб пазбаўленні Ганны Бахцінай ліцэнзіі звярталіся Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Ганна Бахціна працавала адвакатам 25 гадоў, абараняла у тым ліку дзеячаў апазіцыі, актывістаў і тых, каго ў свеце прызналі палітвязнямі. Сярод кліентаў адвакаткі былі вядомая беларуская журналістка Ірына Халіп, праваабаронца Эніра Браніцкая, блогер Эдуард Пальчыс, адзін з лідараў Беларускага Нацыянальнага Кангрэсу Мікалай Статкевіч, фігурант "справы патрыётаў" Міраслаў Лазоўскі.

**Паводле "Хартыя'97"**



# У ШВЕЙЦАРЫІ НАРЭШЦЕ АДКРЫЛІ ПОМНІК КАСЦЮШКУ

**Працяг са старонкі 1.**

Кампрамісны варыянт шыльды выглядае так: "Тадэвуш Касцюшка. 1746–1817. Ад Беларускага аб'яднання ў Швейцарыі. 2017 год" па-беларуску і па-нямецку. Прычым у нямецкім варыянце беларуская асацыяцыя пішацца ўжо як Belarussische, а не Weissrussische.

Рэакцыяй беларусаў на канфлікт у Залатурне было пачаць збор сродкаў на помнік Касцюшку ў Беларусі, у Мерачоўшчыне, дзе ён нарадзіўся. Людзі ахвотна адгукнуліся на заклік Глеба Лабадзенкі, і на сённяшні дзень неабходныя сродкі ўжо сабраныя.

За ўшанаванне памяці нацыянальнага героя Беларусі, Літвы, Польшчы і ЗША Аляксандр Сапега атрымаў дзве ўзнагароды: медалі ад Кракаўскага і Варшаўскага прадстаўніцтваў Фонду імя Тадэвуша Касьцюшкі

**Паводле "Наша Ніва" і "Польскае Радыё"**

навіны "Будзьма беларусамі!"

## "500-годнасць" у Баранавічах

У папулярнай баранавіцкай кавярні "У госці" ўвечары 2 кастрычніка была асаблівa цёплая атмасфера. У госці да чытачоў завітаў літаратурны дэсант з Мінску ў складзе Уладзіміра Арлова, Ігара Крэбса і Андрэя Хадановіча.

Уладзімір Арлоў прэзентаваў сваю новую кнігу прозы "Танцы над горадам", а таксама кнігу для дзяцей і падлеткаў "Айчына: маляўнічая гісторыя".

Андрэй Хадановіч, які захапіў з сабой гітару, расказаў пра новыя кнігі сваіх перакладаў, у прыватнасці, пра зусім свежы зборнік выбраных твораў Шарля Бадлера.Вялікую ўвагу публікі выклікала таксама і размова пра нядаўна перакладзеную Андрэем "Суперкнігу пра Біла з Болаю" шведскай дзіцячай пісьменніцы і мастачкі Гунілы Бэргстрэм.

Перакладчык Ігар Крэбс пазнаёміў аўдыторыю з выбранымі вершамі Генрыха Гайнэ, а таксама з перастворанымі ім па-беларуску "Прыгодамі барона Мюнхгаўзена".



Уладзімір Арлоў.

Сустрэча адбылася ў межах кампаніі "Будзьма беларусамі!" і агульнанацыянальнай акцыі "Наша 500-годнасць", прысвечанай юбілею беларускага кнігадруку.

## "500-годнасць" у Гомелі

Тэма любові да свайго роду, да краю, у якім нарадзіўся, і да якога ўсё жыцце імкнецца душа, была галоўнай на творчай сустрэчы з паэткай Валянцінай Осіпавай, якая ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" адбылася 19 кастрычніка ў Гомельскім дзяржаўным тэхнічным універсітэце імя П.В. Сухога.

Валянціна Осіпава, якая нарадзілася на Гомельшчыне і ўжо доўгі час жыве на Берасцейшчыне, распавяла слухачам пра сваю любоў да малой радзімы, пазнаёміла іх са сваімі новымі вершамі і прыцягнула ўвагу студэнтаў да важнай культурніцкай акцыі "500-годнасць", якая праходзіць у нашай краіне ў сувязі з юбілеем беларускага кнігадруку. Каб прысутныя змаглі ў поўнай меры ўявіць асветніцкі подзвіг Францыска Скарыны, паэтка зрабіла акцэнт на тым, наколькі раней за іншыя народы беларусы атрымалі Слова Божае на роднай мове. Яна падкрэсліла той факт, што многія тагачасныя ангельскія перакладчыкі Біблii падвяргаліся пераследу за сваю дзейнасць, што каб узяцца за такую адказную справу, патрэбныя былі не толькі талент і здольнасць, але яшчэ і мужнасць.

Студэнты з вялікай цікавасцю ўдзельнічалі ў гістарычнай інтэлектуальнай вiктарыне, пасля якой атрымалі на памяць памятныя паштоўкі на беларускай мове і сувеніры з сімволікай "Пяцісотгоднасці".

Ад кампаніі "Будзьма беларусамі!" і Саюза беларускіх пісьменнікаў спадарыня Валянціна Осіпава прэзентавала ўніверсітэцкай бібліятэцы беларускі часопіс "Дзеяслоў" і сувенірнае выданне кнігі пра жыццёвы шлях Васіля Быкава.

**Болей інфармацыі пра імпрэзы чытайце на сайце budzma.by**

навіны

# БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАЎЦЫ ЗАВІТАЛІ Ў ГОСЦІ ДА БАРЫСА КІТА

Беларускія выдаўцы завіталі ў госці да Барыса Кіта – аднаго з найвядомейшых беларусаў свету, якому ўвесну споўнілася 107 гадоў.

Барыс Кіт, выбітны навуковец і грамадскі дзеяч, вынаходнік ракетнага паліва, ганаровы прафесар многіх універсітэтаў і ганаровы сябра шматлікіх астранамічных аб'яднанняў, быў вельмі ўсцешаны і прасіў гасцей затрымацца ў яго паболей – паскардзіўся на тое, што ў апошнія гады вельмі рэдка бачыцца з беларусамі.

Ад 1972 г. Барыс Кіт жыве ў Франкфурце-на-Майне, куды пераехаў з ЗША. На сёння ён з'яўляецца найстарэйшым жыхаром горада, і з гэтай нагоды яго незадоўга да прыходу гасцей з Беларусі наведвалі мясцовыя журналісты, а яшчэ раней пашану выказаў бургамістр Франкфурта.

У свае 107 гадоў спадар Барыс Кіт захоўвае востры розум і добрую памяць, апрача чыстай беларускай, вольна размаўляе яшчэ на некалькіх мовах.

**Паводле матэрыялаў з фэйсбука Аляксандра Квіткевіча ("Беларуская Прастора"), Валера Булгакава ("ARCHE") і Генадзя Вінярскага ("Кнігазбор")**



Злева направа: Барыс Кіт, Алесь Квіткевіч, Генадзь Вінярскі, Валер Булгакаў, Аляксандра Дварэцкая, Зміцер Колас.

# СКАРЫНА І КАРЦІНЫ: АЛЕСЬ СУША І АЛЕСЬ ПУШКІН У КАЛІНІНГРАДСКАЙ ВОБЛАСЦІ

21 і 22 кастрычніка ў Калінінградзе і Балтыйску адпаведна адбыліся арганізаваныя кіраўніком Беларускага таварыства культуры Калінінграда Ігарам Шаховічам імпрэзы, прысвечаныя 500-годдзю беларускага кнігадрукавання.

Намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Аляксандр Суша падрабязна распавядаў прысутным пра асветніцкую дзейнасць Францыска Скарыны, а мастак Алесь Пушкін знаёміў гледачоў з экспазіцыяй сваіх прац, якая будзе адкрытая для наведванняў у Балтыйску ў бібліятэцы імя Бялінскага на працягу месяца, пасля чаго на месяц пераедзе выстаўляцца ў Калінінград. Акрамя выступаў спецыяльных гасцей з Беларусі, гледачам (а іх на кожную з імпрэз прыйшло блізу сотні чалавек, бо беларусаў з паходжання ў Калінінградскай вобласці вельмі шмат, у тым ліку сярод марскіх афіцэраў і адміністрацыі) была прапанаваная музычная праграма.

Таксама Аляксандр Суша перадаў у бібліятэку Балтыйскага федэральнага ўніверсітэту імя Імануіла Канта 21-томнае факсімільнае выданне "Кніжная спадчына Францыска Скарыны"

**Фота з фэйсбука Алеся Сушы**



Ігар Шаховіч.



# ЧАРГОВЫ ПРЫСУД НА КАРЫСЦЬ ХВЕДАРА НЮНЬКІ

Паводле ліста Хведара Нюнькі ад 22 кастрычніка 2017 года, сумнавядомы цыкл судовых пасяджэнняў, у якія выліўся канфлікт групы сяброў Таварыства беларускай культуры (ТБК) з былым старшынёй суполкі Хведарам Нюнькам, канчаткова завяршыўся. Апошні судовы разгляд, гэтаксама як і папярэднія, вынес прысуд на карысць спадара Хведара.

У адпаведнасці з рашэннем Віленскага апеляцыйнага акруговага суду, які адбыўся 17 кастрычніка 2017 года, рашэнне Віленскага акруговага суду ад 7 снежня 2016 года, якое апраўдвае Хведара Нюньку, мусіць быць пакінутае без зменаў, а на заяўніка – Таварыства беларускай культуры ў Літве, якое цяпер узначальвае А. Адамковіч, – ускладаецца абавязак аплаціць усе выдаткі адказчыка (1824 еўра).

Хведар Нюнька – сябра Вялікай Рады і адзін з заснавальнікаў ЗБС "Бацькаўшчына". Стаяў ля вытокаў Таварыства беларускай культуры ў Літве і ад самага стварэння на працягу чвэрці стагоддзя яго ўзначальваў. Дзякуючы дзейнасці ТБК і асабістым намаганням спадара Хведара Нюнькі ў Вільні працуе беларуская гімназія, імёнамі знакавых для Беларусі асобаў названыя некалькі вуліц, усталяваныя помнікі на магілах беларускіх дзеячаў і дзясяткі мемарыяльных дошак, а таксама захаванае месца забойства Кастуся Каліноўскага на Лукішскім пляцы. ТБК за часамі старшынства спадара Хведара правяло пяць канферэнцый беларусаў Балтыі. Выдаткі, звязаныя з утрыманнем сядзібы ТБК, Хведар Нюнька доўгі час аплочваў са сваёй пенсіі.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

гутарка

# Марыя Міцкевіч: "Дабрачынны канвой вёз у Беларусь гуманітарную дапамогу, а на зваротным шляху – выданні для «Скарынаўкі»"

Займацца дабрачыннасцю ў Беларусі – справа нялёгкая. Аднак усмешкі дзяцей і ўдзячнасць бацькоў кампенсуюць наступствы хісткага заканадаўства, неабходнасць справаздач і непазбежнасць шматгадзіннага мытнага агляду. Больш за дваццаць гадоў Марыя Міцкевіч суправаджае гуманітарныя канвоі, курыруе аздараўленчыя і адукацыйныя праекты, сумяшчаючы дабрачынную дзейнасць з адказнасцю быць унучкай Якуба Коласа і Янкі Маўра.



Марыя Міцкевіч і айцец Аляксандр Надсан. Фота з уласнага архіва Марыі Міцкевіч

## Першае знаёмства з беларусамі замежжа адбылося ў Кліўлендзе

Маё першае знаёмства з беларусамі замежжа адбылося ў 1990-м годзе, калі я трапіла на з'езд беларусаў замежжа ў Кліўлендзе. Нас сустракалі ў нацыянальных строях і па-беларуску, што ў той час ды ў іншай краіне было вельмі незвычайна. Дзякуючы гэтай сустрэчы я пазнаёмілася з Вітаўтам Кіпелем, Янкам Запруднікам, Юліяй Андрусішынай, Міколам Прускім, Івонкай Сурвіллай, упершыню сустрэлася з малодшым братам майго дзеда Міхасём Міцкевічам. На з'ездзе ішла гаворка пра дапамогу Беларусі пасля Чарнобыльскай катастрофы. Аказалася шмат зацікаўленых, бо гэта быў той момант, калі эміграцыя хацела і магла дапамагчы.

## У Беларусь ехаў гуманітарны груз з тонамі лекаў для ахвяр чарнобыльскай радыяцыі

У пачатку 90-х дапамогу ахвярам чарнобыльскай радыяцыі ўзяў на сябе Беларускі народны фронт "Адраджэнне". БНФ праводзіў чарнобыльскія і экалагічныя акцыі, мітынгі, паездкі ў забруджаныя раёны, жалобныя набажэнствы. 30 верасня 1989 года ў Мінску адбыліся народнае шэсце і мітынг "Чарнобыльскі шлях". У 1991 годзе быў арганізаваны "Народны трыбунал", які разглядаў, наколькі эфектыўна пераадольваюцца вынікі чарнобыльскай катастрофы. У красавіку 1998 года Генадзь Грушавы ўзначаліў Камітэт БНФ "Дзеці Чарнобыля", які праз два гады быў зарэгістраваны дабрачынным фондам. Шмат у якіх краінах пачалі ствараць грамадскія арганізацыі дапамогі пацярпелым рэгіёнам. Аднак кіраўніцтва многіх шпіталяў адмаўлялася ад лекаў і вітамінаў, забараняла сустрэчу з дактарамі, калі рабілася вядома, што дапамога ідзе праз БНФ. У 1990 годзе ў Беларусь з дапамогай прыязджаў айцец Аляксандр Надсан, які гадам раней арганізаваў у Лондане Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі, што меў сваіх прадстаўнікоў у розных краінах свету: айца Язэпа Сіру – у ЗША, Раісу Жук-Грышкевіч – у Канадзе, Міхася Лужынскага – у Аўстраліі, Міхася Наўмовіча – у Францыі. У Лондане айцу Аляксандру дапамагалі журналістка і пісьменніца Вера Рыч, Павал Асіповіч, Міхась Баяроўскі, Янка Міхалюк. Дзякуючы намаганням камітэту ў Беларусь ехаў гуманітарны груз з тонамі лекавых сродкаў, якія размяркоўваліся па шпіталях Мінска, Гомельшчыны і Магілёўшчыны.

## Патрэбная была дабрачынная арганізацыя па-за палітыкай

Я часта суправаджала айца Аляксандра Надсана ў паездках па чарнобыльскім рэгіёне Беларусі і бачыла, з якімі цяжкасцямі часам ідзе размеркаванне гуманітарнага грузу. Пасля першай паездкі мы прыйшлі да высновы, што трэба стварыць дабрачынную партнёрскую арганізацыю, не звязаную з палітыкай. З яго бласлаўлення 26 красавіка 1993 года, на 7-я ўгодкі Чарнобыльскай катастрофы, у Доме літаратара адбылася прэзентацыя Дзіцячага фонду духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік". Мы лічылі, што аўтарытэт майго дзеда, народнага паэта Якуба Коласа, будзе спрыяць у вырашэнні складаных арганізацыйных пытанняў. Назва фонду сімвалізуе адраджэнне Беларусі. На вечарыне гучаў верш Наталлі Арсенневай "Сакавік", а капэла спявала "Магутны Божа". З таго дня пачалася праца, якая працягваецца амаль 25 гадоў.

## Дабрачынны канвой вёз у Беларусь гуманітарную дапамогу, а на зваротным шляху – выданні для "скарынаўкі"

Па-першае, мы займаліся размеркаваннем і дастаўкай гуманітарнай дапамогі, а таксама дапамагалі нашым сябрам замежжа арганізаваць сустрэчы ў дзіцячых дамах і іншых арганізацыях, ладзілі знаёмства з дактарамі. Бо нават для наведвання пэўнай установы патрэбны дазвол, а для дапамогі – стос папераў. Працэдура іх атрымання штогод ускладнялася нашым заканадаўствам. Раней гуманітарную дапамогу можна было прыехаць і аддаць, цяпер яе трэба браць на захоўванне і пісаць план размеркавання, узгадняць ў Дэпартаменце па гуманітарнай дзейнасці, чаму папярэднічаюць гадзіны, праведзеныя на мытні.

Дзякуючы айцу Аляксандру Надсану пачалося супрацоўніцтва з дабрачыннымі арганізацыямі Вялікабрытаніі і Ірландыі. Іх прадстаўнікі прыязджалі з вялікімі канвоямі, і нават падаравалі фонду "Сакавік" машыну хуткай дапамогі, на якой можна было развозіць грузы па Беларусі. Спачатку дапамогу складалі лекі і вітаміны, разнастайныя медыцынскія матэрыялы. Аднак пасля мы прыходзілі да галоўнага ўрача, і той даваў запыт. Калі машына едзе з гуманітарным грузам, варта прывозіць тое, што трэба. У снежні мінулага года мяне запрасілі на адкрыццё новай беларускай царквы ў Лондане і папрасілі разабраць архіў айца Аляксандра, звязаны з гуманітарнай дзейнасцю. Сярод іншага мне сустрэўся вялікі стос запытаў ад дактароў, па якіх ён замаўляў неабходныя рэчы.

Дабрачынны канвой вёз у Беларусь гуманітарную дапамогу, а на зваротным шляху я слала выданні ў "скарынаўку" – бібліятэку імя Францыска Скарыны ў Лондане. А калі сама ездзіла на машыне, сталыя эмігранты перадавалі на Беларусь дарагія для іх, але ўжо не цікавыя наступнаму пакаленню выданні – прысвечаныя радзіме газеты, часопісы, кнігі. Частка была перададзеная ў Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, частка захоўваецца ў мяне. Аднак я планую перадаць эміграцыйныя выданні ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, у аддзел, прысвечаны беларускай эміграцыі.

## Беларусы замежжа збіралі грошы на канвоі і шукалі ахвочых дапамагчы

Беларусы замежжа вельмі шмат дапамагалі: яны збіралі грошы на канвоі, знаходзілі сем'і, гатовыя прыняць беларускіх дзяцей, шукалі арганізацыі, якія маглі падтрымаць Беларусь. Шмат сродкаў ішло праз царкву. Разам з айцом Аляксандрам гуманітарныя грузы суправаджалі Сяргей Дзейка, Тодар Жынгель, Язэп Мошчык, Міхась Баяроўскі з Вялікабрытаніі, Святаслаў Каржанеўскі з Аўстраліі. На сабраныя грошы набывалі лекі і неабходную апаратуру. Так, на замову беларускіх дактароў Міхасём Наўмовічам (Францыя) быў набыты апарат ультрагуку. А на святы абавязкова везлі для дзяцей падарункі. У ЗША вельмі дапамагаў Мікола Прускі, у Канадзе – Івонка Сурвілла, Раіса Жук-Грышкевіч. Нашыя беларусы збіралі сродкі на разнастайныя праекты і праз Беларускую царкву ў Канадзе. У Нью-Ёрку ішла дапамога праз майго сваяка Алеся Міцкевіча. Ён выдаваў інфармацыйны лісток, што распаўсюджваўся сярод амерыканскіх беларусаў. Сярод іншага там друкаваліся мае інтэрв'ю, і чытачы маглі даведацца пра нашыя патрэбы і чымсьці дапамагчы.

## Ірландскія валанцёры дапамагаюць дзецям і дарослым з псіхічнымі захворваннямі

Вельмі многа для нашай краіны зрабілі ірландскія дабрачынныя арганізацыі. Аднойчы ў вёску Караліна ў Стаўбцоўскім раёне прыехаў канвой з 60 ірландцаў. Дапамагалі і іншым дзіцячым дамам – у Станькаве, Караліне, Язоўках, Чэрвені, Тарасіках, Гарадзішчах і г.д. У Беларусь і цяпер прыязджае шмат ірландскіх валанцёраў – у дамы-інтэрнаты, дзе ўтрымліваюцца дзеці і дарослыя з псіхічнымі захворваннямі. У гэтым напрамку можа не кожны пайсці – быць сярод незвычайных людзей. А ірландскія валанцёры прыязджалі – кармілі, гулялі, прывозілі гуманітарную дапамогу і неабходнае абсталяванне, рабілі рамонт.

**Гутарыла Яна Шыдлоўская.**

**Працяг вялікай гутаркі чытайце на сайце zbsb.org**

**Публікацыя зроблена ў межах ініцыятывы "Грамадскі ўдзел", якая аб'ядноўвае розныя арганізацыі дзеля пашырэння грамадскай актыўнасці і развіцця грамадзянскай супольнасці.**

гутарка

# Зміцер Сасноўскі: "Наша музыка і культура недаацэненая намі самімі; за мяжой, на жаль, іх цэняць болей"

Гурт сярэднявечнай музыкі "Стары Ольса" вярнуўся з працяглага тура па Амерыцы. 19 лістапада ён збіраецца выступіць у Мінску і прэзентаваць новы альбом.

Нагадаем, што "Стары Ольса" – адзіны беларускі гурт, які атрымаў кантракт на серыю тураў па ЗША. Музыкі правядуць у Беларусі зусім няшмат часу і хутка зноў з'едуць на гастролі. З гэтай нагоды VEDI.BY вырашыў зазірнуць у госці да лідара гурта Зміцера Сасноўскага.



facebook.com/maria.sharyi

**– Зміцер, раскажы пра гэты апошні тур. Што вы там бачылі? Што паказвалі?**

– Трэці тур збольшага паўтараў першы і ахапіў Паўночныя штаты. Але ён быў самы вялікі ў параўнанні з першым і другім. Мы двойчы перасеклі Амерыку ад акіяна да акіяна. Гэта першы раз, калі мы наведвалі тыя фестывалі, якім мы спадабаліся яшчэ год таму, і якія захацелі зноў нас запрасіць. Мы ўпершыню наведвалі месцы, дзе ў нас ёсць заўзятары і аматары. У першую чаргу гэта Мінесота і Мэрыленд – два штаты. У першы раз мы так доўга былі ў Амерыцы – два з паловаю месяцы. Упершыню мы гралі ва ўніверсітэтах. І аказалася, што для любога гурта, які прыязджае за мяжу, запрашэнне выступаць ва ўніверсітэтах ці ў грамадскіх залах – гэта вельмі прэстыжна. Выйшаў наш другі ўжо альбом у Амерыцы. "Вада, хмель і солад". У Беларусі ён павінен выйсці ў сярэдзіне кастрычніка, перад прэзентацыяй.

**– Ці ведаюць амерыканцы, што існуе такая краіна – Беларусь?**

– Амерыканцы не ведаюць, дзе Беларусь. Таму рэгулярна прыходзіцца тлумачыць. Былі ўсялякія дзіўныя выпадкі, калі ў Мэрылендзе, напрыклад, адзін слухач пасля канцэрту падышоў і кажа: "А які абутак вы носіце? Я гляджу, у вас такі арыгінальны абутак, скураны". А нашыя хлопцы пачалі казаць: "Адыдас", "Найк", "Рыбак". – "Як? Я ж думаў, у вас такі арыгінальны абутак!" – "Дык гэта ж сярэднявечны абутак, сцэнічны!" Такія нюансы. Многія амерыканцы ўзгадваюць свае карані – хто адкуль паходзіць. Сустракаліся такія выпадкі, калі ў 4–5 пакаленні амерыканцы памятаюць, што іх паходжанне з Беларусі.

**– Як успрымаецца беларуская мова?**

– Многія да нас звярталіся на рускай мове, думаючы, што раз з былога СССР, то ўсе рускамоўныя. Даводзілася часта тлумачыць, што ў нас ёсць свая мова. У нас пыталі, а як "дзякуй" па-беларуску? Мы кажам: "Ну, «дзякуй»". І гэтае "дзякуй" з нашай падачы многія амерыканцы вывучалі. Яны кажуць "спасибо" і "дзякуй" – гэта вялікая розніца і вялікае адкрыццё! Але простыя амерыканцы такія прыязныя, што, калі даведваюцца, з якой ты краіны, адразу лезуць у інтэрнэт, пару слоў вывучваюць і ўжо з усмешкаю іх выкарыстоўваюць. Такое ўражанне, што ім гэта прыемна.

**– Ці ёсць цікавасць у амерыканцаў да беларускіх песень, беларускага сярэднявечча?**

– Цікавасць не проста ёсць. У Амерыцы няма сярэднявечнай музыкі ў тым разуменні, у якім яна развіваецца ў Еўропе. Гэта старыя інструменты, набліжаныя да старадаўніх, гэта мелодыі сярэднявечныя і плюс, па магчымасці, аўтэнтычнае выкананне. Такой музыкі ў Амерыцы няма. Таму кожны фэст сярэднявечнай культуры завалены народнай музыкай – ірландскай, шатландскай, французскай, камернай вакальнай (такіх мы сустракалі гуртоў нямала). І цікавасць да нас настолькі вялікая, што на 2018 год мы атрымалі прапанову ўжо трох тураў, а не двух на год, як звычайна. Але мы адмовіліся, таму што тры туры – гэта ўжо нейкая міні-эміграцыя. Мы захацелі пабыць у Беларусі болей. Для разнастайнасці асенні тур замянілі на летні. Мы паедзем абсалютна па новых штатах. Гэта новая авантура нашага прадзюсара. Яна спрабуе высветліць нейкую новую публіку, стварыць імя там, дзе мы яшчэ не былі. Узімку мы вельмі хутка – 17 студзеня – зноў паляцім, зноў больш чым на два месяцы. Будзем выступаць у Паўднёвых штатах.

**– А якія планы на Беларусь? Дзе вас тут можна будзе пабачыць?**

– У нас з-за тураў па Амерыцы вельмі шмат фестываляў, якія мы не здолелі наведаць. Не толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы, ва Украіне, у Чэхіі. Наступны жнівень мы хочам правесці тут. Але ўжо ёсць запрашэнні ў Іспанію і Францыю – куды мы ніяк не патрапім. Магчыма будзе Партугалія.

**– І ўсё ж у Беларусі вас можна будзе ўбачыць калі-небудзь?**

– Так. Жнівень – верасень – гэта яшчэ фестывальны перыяд. Мы будзем выступаць у Беларусі. Хутчэй за ўсё мы патрапім на Свята гораду Менску, магчыма, і на фэст "Камяніца". Але пакуль што так далёка загадваць рана.

**– Найбліжэйшы канцэрт. Пра яго можаш расказаць? Што вы там пакажаце?**

–19 лістапада ў Мінску адбудзецца прэзентацыя альбома "Вада, хмель і солад" – першага ў гісторыі групы застольнага альбома. Мы сыграем творы з гэтага дыска, а таксама нешта і са сталага рэпертуару. Яшчэ прапануем гледачам паўдзельнічаць у адным старадаўнім абрадзе. Які гэта абрад, пакуль не скажу, каб захаваць інтрыгу. Але будуць унікальныя напоі, і вось старадаўняя такая застольная традыцыя. Сам альбом назбіраўся так дзіўна – за апошнія 4 гады мы развучвалі песні, а потым аказалася, што іх можна аб'яднаць разам пад агульнай тэмай застольных песняў. Застольная музычная культура досыць багатая – спяваліся не толькі песні пра выпіўку і весялосць, але яшчэ і жартоўныя песні, рэлігійныя песні, гістарычныя – пра бітвы, пра славутых асобаў, пра заснаванне гарадоў. Мы б хацелі паказаць, што культура піцця ў нашых продкаў была нашмат лепшая і вышэйшая, чым у нас зараз. Па-першае, гэта адбывалася больш высакародна, а па-другое, моцныя алкагольныя напоі ў сярэднявеччы, у часы Рэнесансу не ўжывалі. А пілі віно, пітны мёд, піва.

**– Дарэчы пра карчму. Некалькі год запар ты робіш шмат намаганняў, каб аднавіць старажытную карчму ў вёсцы Гіравічы. Нават, заснаваў аднайменны фестываль – "Карчма". Што з гэтым праектам?**

– Я не ведаю, што будзе далей з гэтым праектам і з карчмой. Там ёсць пэўныя цяжкасці. Паколькі гэта незарэгістраваны будынак, то ніхто за яго адказнасці не нясе, і ён нікому не належыць. Абнесці плотам участак, у якога не вызначаныя межы, немагчыма. Гэта будзе захоп тэрыторыі. Таму блізка можа пад'язджаць тэхніка і чапляць пабудову (бо побач ідзе будоўля катэджа), што, уласна кажучы, і адбылося ўжо аднойчы. Больш за ўсё ў гэтых апошніх падзеях засмучае тое, што мясцовыя жыхары разнеслі цэлыя цагліны па хатах – проста іх скралі. Афармленне гэтага будынку перададзена ў Ракаўскі сельсавет. І гэты працэс працягнецца да красавіка. А далей два варыянты: альбо выстаўленне на аўкцыён, а гэта немалыя грошы, каб набыць; альбо гэта вылучэнне ўчастка пад агратурызм. Пад агратурызм калі будзе вылучана, то за тры гады трэба будынак увесці ў эксплуатацыю. То бок санвузлы, кухня, гасцінныя пакоі, ацяпленне. За тры гады, каб гэты будынак давесці да такога стану, патрэбны такія грошы, якіх, на жаль, я не здолею знайсці. Падтрымка ў мяне ёсць, але гэтага не хапае. Таму на сённяшні момант, я схіляюся да таго, што няма сэнсу за гэтую справу брацца, бо няма фінансаў. Шчыра кажучы, я не разумею, як можна траціць мільёны даляраў на новыя будынкі адміністрацыйныя, пабудову лядовых палацаў, калі такі сімвал, як Крэўскі замак проста руйнуецца. А што датычыць карчмы, то па падліках набыццё, кансервацыя, пабудова каркаснай сістэмы на месцы сцен, якія адсутнічаюць, дах, падлога і вокны – усё гэта цягне на 57 тысяч. Іх знайсці не атрымліваецца. Браць на сабе адказнасць за гістарычны будынак, а потым не здолець яго рэстаўраваць я не хачу.

**– Сумна… Давай пра штосьці больш аптымістычнае. Раскажы пра планы на будучыню. Ці ёсць, напрыклад, матэрыялы для наступнага альбома?**

– Ёсць. Не зусім для альбома, але для такога вялізнага сінгала. Мы калісьці развучылі ўсе лепшыя мелодыі і склалі лепшы сюжэт з усіх варыянтаў "Балады пра Цмока", якія да нас дайшлі. Мы не проста хочам яе аднавіць і запісаць, мы хочам зрабіць з гэтага батлейку. Мы набылі, нават, старадаўнюю шафу. І, я думаю, у нас атрымаецца гэты праект, але калі мы нарэшце трохі пажывем у Беларусі. Але што хочацца падкрэсліць – на жаль, наша беларуская музыка, як і ўвогуле наша культура, гісторыя недаацэненая самімі беларусамі. Даводзіцца канстатаваць факт, што за мяжой яе цэняць болей. І сумна, што ўжо палову з кожнага года мы праводзім за мяжой.

Кацярына Гусева, vedi.by

навіны

# ДРАЎЛЯНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЦАРКВА Ў ЛОНДАНЕ – НАМІНАНТ НА ПРЭЗІДЭНЦКУЮ ПРЭМІЮ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЦАРКОЎНАЙ ФУНДАЦЫІ Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ



Айцец Сяргей Стасевіч падзяліўся ў сваім фэйсбуку радасцю з той нагоды, што драўляная Грэка-каталіцкая царква беларускай супольнасці ў Лондане апынулася сярод намінантаў на Прэзідэнцкую прэмію Нацыянальнай царкоўнай фундацыі (National Churches Trust) у Вялікабрытаніі.

"У нас толькі 3 канкурэнты з ліку новых сакральных і рэлігійных будынкаў, пабудаваных у краіне, – паведамляе айцец Сяргей. – Пераможца атрымлівае грашовы прыз і срэбны келіх з патэнай у часовае карыстанне".

Архітэктар першага драўлянага храма ў Лондане з 1666 года Со Цзыўая нарадзіўся ў Кітаі, вырас у Ганконгу, атрымаў адукацыю ў Брытаніі. У 2007 годзе ён даведаўся пра Беларускую каталіцкую місію ў Лондане і так захапіўся Беларуссю, што перайшоў ва ўніяцтва. На прапанову а. Сяргея Стасевіча архітэктар зрабіў праект капліцы для беларускай місіі, і ў 2016 годзе царкву пабудавалі.

**Паводле facebook.com/siarhiej.stasievich**

навіны

# СЯРЖУК ДОЎГУШАЎ СПЯВАЎ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ НЬЮ-ЁРКУ

6 і 7 кастрычніка ў Нью-Ёрку адбыліся два канцэрты Сержука Доўгушава, этнографа, саліста Дзяржфілармоніі, лідара гурта Vuraj, ініцыятара "Спеўнага сходу".

Выканаўца пазнаёміў публіку з традыцыйнымі музычнымі інструментамі: колавай лірай, акарынай, жалейкай, сапілкамі розных памераў.



Па традыцыі спеўных сходаў Сяржук заахвочваў публіку спяваць разам з ім, і зала ў захапленні падхоплівала: "Штось у лесе гукае, салавейка спявае..."

Акрамя народных песень спявак выканаў некалькі аўтарскіх на словы Уладзіміра Караткевіча.

**Віктар Дудараў, "Новы Час"**

# НАТАЛЛЯ ГАРДЗІЕНКА ПРЭЗЕНТАВАЛА "ХРОНІКІ БІНІМУ"

"Хронікі" – гэта гісторыя Беларускага інстытута навукі і мастацтва, расказаная моваю дакументаў: лістоў, успамінаў з архіваў двух старшыняў БІНІМа: Вітаўта Тумаша і Вітаўта Кіпеля.

Кнігу прэзентавалі аўтарка Наталля Гардзіенка і Вітаўт Кіпель – адзін з герояў кнігі.



У сваім выступе Наталля адзначыла, што БІНІМ – гэта тая арганізацыя, якая цягам 65 гадоў аб'ядноўвала беларускіх навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў, якія апынуліся на эміграцыі, і давала ім магчымасць працягваць навуковую і творчую працу.

Вітаўт Кіпель падзяліўся ўспамінамі аб сваёй дзейнасці на пасадзе старшыні, пра плён працы інстытута за 65 гадоў.

**Віктар Дудараў, "Новы Час"**

# 100-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛАГА СЦЯГА Ў ПАЎДНЁВАЙ ФЛАРЫДЗЕ

Сябры аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Паўднёвай Фларыдзе крэатыўна адзначылі 100-гадовы юбілей бел-чырвона-белага сцяга: беларусы сваімі рукамі стварылі калекцыю керамічных вырабаў, размаляваных у бел-чырвона-белай палітры.



Да іх далучыліся і іх сябры іншых нацыянальнасцяў, каму не абыякава пытанне беларускай незалежнасці. Так, дадзены праект сабраў не толькі беларусаў з усёй Паўднёвай Фларыды, але таксама і гасцей з розных частак свету. Кожны ўдзельнік праекта дзяліўся сваім ўяўленнямі аб тым, што для яго/яе значыць пачуццё гонару за нацыянальны сцяг. 100 гадоў таму, грамадска-палітычны і культурны дзеяч Клаўдзій Дуж-Душэўскі распрацаваў сучасны дызайн бел-чырвона-белага сцяга, які пасля стаў афіцыйным сцягам БНР.

Старшыня БАЗА ў Паўднёвай Фларыдзе Сяргей Волкаў адзначыў: "Для нас бел-чырвона-белы сцяг – гэта маленькая часцінка Радзімы, якая грэе душу і сімвалізуе свабоду і дэмакратыю ў Беларусі". Сакратар аддзела Паліна Прысмакова, прафесар дзяржаўнага кіравання Атлантычнага ўніверсітэта Фларыды, прадставіла прэзентацыю аб супярэчлівасці і няпэўнасці статусу бел-чырвона-белага сцяга ў Беларусі і яго грамадскай значнасці як для грамадзян Беларусі, так і для гэтай краіны на міжнароднай арэне: фармальна трыкалор не з'яўляецца забароненым, аднак яго публічная дэманстрацыя і выкарыстанне пераследуецца і караецца праваахоўнымі органамі краіны. Прэзентацыя ўтрымлівала храналогію спробаў надання бел-чырвона-беламу сцягу статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці, пачынаючы ад пачатку XX стагоддзя да цяперашняга часу.

Сяргей Волкаў адзначыў, што "нароўні з "Пагоняй", якая ўжо занесеная ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь, унясенне бел-чырвона-белага сцягу ў гэты ж спіс з'яўляецца актам гістарычнай справядлівасці".

Падобныя праекты ўмацоўваюць беларускую супольнасць у Паўднёвай Фларыдзе і дазваляюць акцэнтаваць неабходнасць фармальнай легалізацыі бел-чырвона-белага сцягу у Беларусі. БАЗА Паўднёвай Фларыды спадзяецца, што іншыя групы і грамадскія арганізацыі падтрымаюць праект. Сваімі бел-чырвона-белымі вырабамі арганізацыя запрашае падзяліцца на іх старонцы ў фэйсбуку.

**Паводле "Беларускае Радыё Рацыя"**

гутарка

# ЯК СТВАРАЛЬНІК БЕЛАРУСКАЙ ПАРТЫІ АМАТАРАЎ ПІВА СТАЎ ПІРАТАМ У ЧЭШСКАЙ ПАЛІТЫЦЫ

У чэшскіх парламенцкіх выбарах удзельнічае адзіны беларус. Андрэй Рамашэўскі, стваральнік колішняй Партыі аматараў піва ў Беларусі, балатуецца ад Пірацкай партыі. Арганізацыя ўваходзіць у Інтэрнацыянал пірацкіх партый і мае прадстаўнікоў у дзяржаўных структурах Чэхіі.



47-гадовы беларус разам з сям'ёй жыве ў маленькай чэшскай вёсцы пад Пардубіцамі, за 120 км ад Прагі, і мае нетыповы для ўсходнееўрапейскай вёскі знешні выгляд – паголеная галава, доўгая барада... У іх з жонкай Люцыяй чацвёра дзяцей. Старэйшаму Якубу – 14, а сем месяцаў таму яны з малодшымі Радаванам і Тамарай дачакаліся яшчэ аднаго брацікa – Рафаэля Францішка.

Гаспадарка вялікая – трымаюць авечак, коз, свіней, курэй, гусей. Па падворку бегаюць сабака і кот. У найбліжэйшых планах – карова. Маюць 1,5 гектара леса.

За плячыма – удзел, яшчэ ў юнацтве, у Дэмакратычным саюзе Валерыі Навадворскай, у Транснацыянальнай радыкальнай партыі, у акцыях БНФ, у шэсцях на Курапаты, стварэнне легендарнай Партыі аматараў піва. Палітычная актыўнасць у Беларусі чакана давяла да "Валадаркі", у 1996 – да двухгадовага прысуду, далей выпрабоўваць лёс Андрэй не стаў і ў 1997 годзе атрымаў у Чэхіі палітычны прытулак.

Сёлета, ужо з чэшскім пашпартам, Андрэй Рамашэўскі ўдзельнічае ў парламенцкіх выбарах у Чэхіі ад Пірацкай партыі. Гэта афіцыйная структура, члены партый па ўсім свеце – пераважна спецыялісты ў галіне IT – канцэнтруюцца "на пытаннях капірайту і адстойванні правоў і прыватнасці чалавека ў інфармацыйным грамадстве 21 стагоддзя: у свеце, запоўненым інтэрнэтам". Андрэю, які 17 гадоў працуе праграмістам, гэтыя ідэі аказаліся блізкімі. "Піраты" з'яўляюцца парламенцкай партыяй: маюць 1 сенатара, 4 месцы ў муніцыпалітэце Прагі і гарадскога старасту ў Марыянскіх Лазнях. Сёлета патэнцыял партыі на выбарах ацэньваюць у 12%.

– Наконт барады – гэта быў такі зарок, пачалося гэта яшчэ з тых Віленскіх падзеяў з танкамі, я далёка не быў абыякавы да літоўскай незалежнасці, таму сказаў: пакуль іх не адпусцяць з СССР – не буду галіць бараду. Пасля іх адпусцілі – дык вырашыў не галіць да незалежнасці Беларусі, а потым прызвычаіўся.

**– Як ты сам сябе ідэнтыфікуеш цяпер: беларус, чэх, еўрапеец?**

– Перадусім я еўрапеец, а значыць, і беларус, і чэх.

**– Што беларускага ў табе перашкаджала, а што наадварот – дапамагло інтэграваццa ў чэшскае грамадства?**

– У горадзе жыццё трохі іншае, там інтэграцыя праходзіла б, можа, крыху інакш, але вялікай розніцы паміж нашай вёскай і чэшскай, я б сказаў, няма. Так што калі я пераехаў бліжэй да зямлі, гэта мне вельмі дапамагло адначасна застацца беларусам і інтэгравацца ў мясцовае грамадства.

**– Якое самае стэрэатыпнае ўяўленне пра Беларусь у асяроддзі тваіх чэшскіх калег, аднавяскоўцаў?**

– Пра беларусаў ведаюць мала, іх тут так мала, што нават няма стэрэатыпаў. Успамінаюць адразу Лукашэнку. На вёсцы Лукашэнка – народны герой, а ў гарадах – сумнеўны дыктатар. Тлумачу ім, як гэта на самой справе. Але беларуская тэма тут не вельмі актуальная.

**– У табе ўсё жыццё буяў грамадска-палітычны імпэт. Колькі прайшло часу, каб ён зноў прачнуўся тут, у Чэхіі?**

– Прайшло 20 гадоў. Першыя 10 гадоў я больш удзельнічаў у беларускіх справах: у мяне не было сям'і, заставаўся вольны час, але зараз ездзіць у Прагу і займацца там беларускай актыўнасцю проста няма калі.

**– А што цябе падштурхнула зноў вярнуцца да палітыкі?**

– Калі аднойчы з гэтым пачнеш – ужо не скончыш. Гэта як з паляваннем.

**– У тваіх грамадска-палітычных дзеях у Беларусі быў вялікі працэнт іроніі, выкліку. Пірацкая партыя – працяг гэтага жыццёвага перформансу ці ўзважанае рашэнне сталага чалавека?**

– Бясспрэчна, гэта ўзважанае рашэнне. Гэта трошкі нетрадыцыйная партыя: мае нетрадыцыйныя назоў, мы ладзім нетрадыцыйныя акцыі, а ў астатнім – больш-менш звычайная. Калі выбіраеш паміж чэшскімі партыямі, хацелася б выключыць усе тыя, які ўдзельнічалі ў сумнеўных кааліцыях, у карупцыйных аферах. Што застаецца? Камуністы, нацыяналісты? Але гэта не наш шлях. Ёсць яшчэ "зялёныя", але яны ў маіх вачах таксама не маюць добрай рэпутацыі. Засталіся Піраты – адзіная ліберальная партыя, якая пакуль не скампраметаваная. Мы самая маладая партыя. За намі няма спонсараў, алігархаў – гэта за цэлую гісторыю чэшскай палітычнай сістэмы першая партыя, якая не вырасла на нейкіх грошах.

**– Апішы каротка свой дзень: як у яго ўмяшчаецца ўсё, што ты паспяваеш?**

– Калі каротка, дык я ўстаю вельмі рана, у 6 гадзін, у 7:15 мы з дзецьмі ўжо выязджаем з дому. Развожу іх па школах, пасля на 8-ю гадзіну іду да працы. Там да 16, пасля збіраю дзяцей па Пардубіцах, вязу дадому і пачынаю другую змену ў гаспадарцы, і так да вечара. Трэба ўсю жывёльнасць накарміць, вычысціць, нарыхтаваць дроў, пратапіць, папрацаваць на будоўлі, калі ёсць час – пасячы траву, крапіву – і ўжо вечар. Кладуся каля поўначы.

**– Як адбывалася тваё пераўтварэнне ў фермера і земляроба?**

– Проста мы пераехалі на вёску, і так пачалося: пару гадоў жылі як і раней, куплялі яйкі і малако ў краме, пасля ў нас з'явіліся куры, пасля качкі, козы, авечкі – і паехала.

**– Вы цалкам забяспечваеце сваю сям'ю з уласнай гаспадаркі?**

– Што тычыцца мяса, малака, яек – так, але гароднінай пакуль не.

**– Навошта ты купіў сабе лес?**

– Па-першае, гэта прыгожа, а падругое – дровы, тапіць жа трэба.

**– Што ведаюць твае дзеці пра Беларусь?**

– Ведаюць, што беларусы, Якуб там быў аднойчы, але даўно, шмат пра тое не памятае. Яны ўсё ж тутэйшыя.

**– Ты рыхтуеш сваю сям'ю да таго, што ёй, магчыма, некалі, давялося б жыць у Беларусі?**

– За ўсю сям'ю не скажу. Я, хутчэй за ўсё, некалі на пенсіі, можа, і паехаў бы ў Беларусь, але дзяцей рыхтаваць да гэтага не магу. Жонка – тая паедзе, яна б і зараз паехала.

**– А ты б мог у сённяшняй Беларусі адчуваць сябе камфортна?**

– Без пытанняў. Я б таксама з'ехаў куды-небудзь на вёску, на памежжа, у лес, і выдатна б там жыў, не сумняваюся. Але ў Беларусі няма прыватнай уласнасці на зямлю, а гаспадарыць на чужой зямлі я не лічу ўвогуле магчымым – сама гэтая ідэя мне здаецца смешнай: рабіць гаспадарку на чужой зямлі, калі цябе ў любы момант могуць адтуль выкінуць у залежнасці ад палітычнай сітуацыі – гэта мне незразумела. Каб я сядзеў недзе ў лесе ціха – улада бы мной не цікавілася, хутчэй за ўсё. Але я б ціха не сядзеў (смяецца).

**– Як ты думаеш, патэнцыял для адраджэння Партыі аматараў піва ў Беларусі ёсць?**

– Чаму не? Пасля Лукашэнкі будзе такі час, калі змены на палітычнай сцэне будуць вельмі хуткія, дынамічныя, а гэта час, адносна якога цяжка нешта прадказваць. Думаю, 2-3 выбарчыя перыяды ў першыя 10 гадоў пасля Лукашэнкі могуць быць цікавымі і там будзе мець шанцы амаль якая заўгодна партыя. Пасля ўсё стабілізуецца, застануцца 2-3 найбуйнейшыя і не будзе так цікава. Партыя дзейнічала ў Беларусі з 1993 па 1996 гады і магла пахваліцца цэлым суквеццем актыву: Лявон Вольскі, Міхал Анемпадыстаў, Севярын Квяткоўскі, Сяргей Скрыпнічэнка, Аляксандр Памідораў – хто з партбілетамі, хто "прымыкаў". Усяго ў партыю ўваходзіла каля 2,5 тысяч сябраў.

**– Мемуары не збіраешся пісаць?**

– Усё збіраюся. Бывае, і пішу, але кавалкамі, у інтэрнэце, так што калі нехта пазбірае – будуць мемуары, але сам наўрад ці.

**– А ты сапраўды аматар піва?**

– Я. Сапраўды. Аматар. Піва. Толькі аматар – не прафесіянал. Але сваіх пару паўлітраў піва практычна кожны дзень выпʼю.

**Паводле Алены Радкевіч, "Радыё Свабода"**

**Друкуецца ў скароце, цалкам чытайце на сайце zbsb.org**

кніга

# ВЫЙШЛА КНІГА ПРА АДЗІН З НАЙСТАРАЖЫТНЕЙШЫХ СПОСАБАЎ ПІСЬМА Ў БЕЛАРУСІ

При спрыянні Згуртавання "Бацькаўшчына" пабачыла свет кніга вядомага гісторыка і краязнаўца Кастуся Шыдлоўскага, які доўгі час займаецца адраджэннем старажытных способаў пісьма. Рэдактар кнігі – вядомы археолаг Мікола Плавінскі.

У новай кнізе, якая называецца "Васковыя таблічкі: погляд на мінулае і будучыню", аўтар у захапляльнай форме распавядае пра гісторыю аднаго з найстаражытнейшых пісьмовых матэрыялаў, які шырока выкарыстоўваўся ў тым ліку і нашымі продкамі. Прычым робіць гэта Кастусь Шыдлоўскі віртуозна: кніга напісаная вельмі лёгкай мовай, чытаецца на адным дыханні і таму будзе цікавая шырокаму колу чытачоў, а не толькі спецыялістам.

Варта адзначыць, што Кастусь Шыдлоўскі не толькі даследуе гісторыю васковых таблічак, але і вырабляе іх сам! Ён працуе ў Цэнтры славян і вікінгаў у польскім мястэчку Волін, дзе займаецца гістарычнай рэканструкцыяй. Неабыякавым да гісторыі будзе цікава зазірнуць у апошні раздзел кнігі, дзе аўтар дае парады, як самому зрабіць васковую таблічку ў хатніх умовах.

Багата ілюстраванае выданне стане прыемным падарункам для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй.

"Будзьма беларусамі!"




навіны "Будзьма беларусамі!"

# КАЛЯНДАР "НЕ МАЎЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ!" НА 2018 ГОД: ШТО НОВАГА?

"Будзьма!" падрыхтавала самую сабачую версію свайго папулярнага календара "Не маўчы па-беларуску!" на 2018 год.

Кампанія "Будзьма беларусамі!" вырашыла працягнуць свой папулярны праект – каляндар "Не маўчы па-беларуску" – і на 2018 год. Выданне трох папярэдніх календароў агульным накладам 21 000 асобнікаў зрабіла дадзены праект адным з самых паспяховых і запатрабаваных беларускамоўных неперыядычных выданняў апошняга часу.

У адказ на шматлікія просьбы і звароты нашых чытачоў мы рыхтуем новы выпуск. Як вядома, наступны год – год Сабакі па ўсходнім календары. Мы вырашылі паказаць, што сабака і для нас не чужая істота, таму сабралі і аздобілі 12 найбольш цікавых беларускіх "сабачых" прымавак!




Традыцыйна ўкладаннем і аздабленнем календара занятыя Дар'я Мандзік і кіраўнік студыі "Адліга" Анатоль Лазар.

Каляндар можна набыць у кнігарнях ці замовіць праз інтэрнэт! Болей інфармацыі – на сайце budzma.by.

"Будзьма беларусамі!"

# ПАЙШОЎ З ЖЫЦЦЯ ЛЕАНІД ШУРАК (14.05.1928 – 31.10.2017)

Адыйшоў з жыцця ў 89 гадоў Леанід Шурак, актыўны сябра беларускай грамады ў Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзі.



Хоць пражыў ён у Амерыцы 67 гадоў, нязменна заставаўся шчырым патрыётам роднай Беларусі, належаў да Саюзу Беларуска-Амерыканскай Моладзі, заўсёды цікавіўся грамадскімі справамі, як дыяспарнымі гэтак і айчыннымі. Моцна хваляваўся за долю роднай мовы ў Беларусі, пісаў вершы, друкаваўся ў альманаху "Беларус" (пад псеўданімам Л. Баравы); адслужыў на пачатку 1950-х гадоў у амерыканскім войску, пасля чаго браў удзел, уключна з кіраўнічымі функцыямі, у дзейнасці Амерыканскага Легіёну, у Згуртаванні Беларуска-Амерыканскіх Ветэранаў, у Беларускім Дэмакратычным Клубе, у дарадчай радзе пры губернатары штату Нью-Джэрсі.

Пакінуў па сабе ў смутку жонку Ліліяну Грушу-Шурак, дачку Аляксандру Г'ювэт з дзецьмі, брата Анатоля, сястру Стасю Шумскую ды невялікую ўжо колькасьць сяброў-супрацоўнікаў. Вечная яму памяць.

Пахаваны нябожчык на могільніку касцёла св. Марыі ў Іст-Брансўіку.

ЯЗ

## Беларускі каляндар памятных дат на лістапад 2017 года

1 лістапада – 105 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Янка Золак (сапр. Антон Даніловіч), паэт, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

2 лістапада – Дзяды.

2 лістапада – 90 гадоў таму, у 1927-м, нарадзіўся Міхась Раецкі, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

3 лістапада – 135 гадоў таму, у 1882-м, нарадзіўся Якуб Колас, народны пісьменнік.

3 лістапада – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляныя Павел Валошын і Флягонт Вальнец, дзеячы нацыянальнага руху.

4 лістапада – 130 гадоў таму, у 1887-м, нарадзіўся Цішка Гартны (сапр. Зміцер Жылуновіч), дзяржаўны дзеяч, гісторык.

4 лістапада – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Аляксандр Валькові, дзеяч нацыянальнага руху.

4 лістапада – 25 гадоў таму, у 1992-м, памёр Васіль Хомчанка, пісьменнік.

5 лістапада – 110 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Міхаіл Вітушка, кіраўнік беларускага супраціву ў другой палове 1940–1950-х гг.

5 лістапада – 20 гадоў таму, у 1997-м памёр Святаслаў Коўш, пісьменнік дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

6 лістапада – 155 гадоў таму, у 1862-м, памёр Віктар Каліноўскі, гісторык, адзін з ідэолагаў паўстання 1863–1864 гг.

6 лістапада – 130 гадоў таму, у 1887-м, нарадзіўся Радаслаў Астроўскі, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і ЗША.

7 лістапада – 75 гадоў таму, у 1942-м, расстраляны Алесь Дубровіч (сапр. Аляксей Рэдзька), паэт, дзеяч нацыянальнага руху.

9 лістапада – 200 гадоў таму, у 1817-м, памёр Раймонд Корсак, паэт, удзельнік паўстання 1794 г.

9 лістапада – 55 гадоў таму, у 1962-м, нарадзіўся Аляксей Мельнікаў, літаратуразнавец.

13 лістапада – 125 гадоў таму, у 1892-м, нарадзіўся Язэп Троська (сапр. Дудзюк), гісторык.

13 лістапада – 75 гадоў таму, у 1942-м, памёр Уладзіслаў Талочка, рэлігійны і культурна-асветны дзеяч, гісторык.

14 лістапада – 205 гадоў таму, у 1812-м, нарадзіўся Паўлюк Багрым, паэт.

14 лістапада – 110 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Міхась Ларчанка, літаратуразнавец.

15 лістапада – 120 гадоў таму, у 1897-м памёр Якуб Гейштар, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

15 лістапада – 110 гадоў таму, у 1907-м, памёр Юзаф Каліноўскі, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

15 лістапада – 30 гадоў таму, у 1987-м, памёр Рыгор Зыбайла, вайсковы дзеяч.

16 лістапада – 35 гадоў таму, у 1992-м, памёр Андрэй Макаёнак, драматург.

18 лістапада – 115 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Міхась Машара, пісьменнік, удзельнік нацыянальнага руху.

18 лістапада – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Адам Бычкоўскі, грамадска-культурны дзеяч.

21 лістапада – 80 гадоў таму, у 1937-м, расстраляны Павел Каравайчык, пісьменнік.

**Беларусы ў свеце**
No 10 (185), кастрычнік 2017

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі. Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27